*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ.***



# Наша СЛОВА.pdf



**Чацвёрты год выдання** **№ 17 (173) 23 красавіка 2025 г.**

## Велікоднае віншаванне Мітрапаліта Менска-Магілёўскага Арцыбіскупа Юзафа Станеўскага




**Хрыстус уваскрос!**
**Сапраўды ўваскрос! Аллелюя!**

Дарагія браты і сёстры, у чарговы раз мы стаім перад таямніцай пустой магілы Езуса і чуем словы, поўныя любові, суцяшэння і надзеі: "Не бойцеся! Хрыстус ужо ўваскрос, Пан мой і мая надзея. А месцам сустрэчы будзе Галілея…"

Гэтыя словы павінны ўмацоўваць нашу веру, што сярод зменлівасці і хаосу сучаснага свету ў розных выпрабаваннях і цярпеннях надалей крыніцай любові і сілы нязменна з'яўляецца ўваскрослы Пан - Пераможца смерці, пекла і сатаны.

Уваскрослы Езус загадвае сваім вучням ісці ў Галілею - месца, дзе падчас паўсядзённых справаў яны сустрэліся з Ім, Настаўнікам з Назарэта і пайшлі за Ім. Няхай жа і наша сустрэча з жывым Збаўцам, прысутным у Найсвяцейшым Сакрамэнце, дапаможа ў Галілеі нашай штодзённасці знайсці мэту і сэнс жыцця, а таксама ўмацуе надзею на канчатковую перамогу дабра над злом, любові над нянавісцю і жыцця над смерцю.

*(Заканчэнне на ст. 3.)*

## Пасхальнае пасланне Мітрапаліта Менскага і Заслаўскага Веніяміна, Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі



**Узлюбленыя ў Хрысце архіпастыры, пастыры, манахі і ўсе верныя дзеці Беларускай Праваслаўнай Царквы!**
**ХРЫСТОС УВАСКРЭС!**

Са светлай радасцю звяртаю да вас гэтае вырата-вальнае прывітанне. Яшчэ зусім нядаўна, у Вялікую Пятніцу, з глыбокім смуткам мы малітоўна перажывалі пахаванне цела нашага Збаўцы ў магільную пячору і чулі плач Яго Прачыстай Маці.

*(Заканчэнне на ст. 2.)*





# Пасхальнае пасланне Мітрапаліта Менскага і Заслаўскага Веніяміна, Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі

*(Заканчэнне. Пачатак на ст. 1.)*

А ў Вялікую Суботу спявалі: "Спіць Жыццё, і пекла трымціць" і з хваляваннем у сэрцы назіралі, як у храмах цёмныя рызы і ўбранні мяняліся на светлыя.

І вось наступіла святая і выратавальная ноч, і мы спяваем: "Учора быў я пахаваны з Табою, Хрысце, - сёння паўстаю з Табою ўваскрэслым. Распяты быў я з Табою ўчора - праслаў жа мяне з Сабою Ты Сам, Збаўца, у Царстве Тваім".

Ужо напоўніліся нашы сэрцы доўгачаканым і невымоўным лікаваннем, ужо чуем мы ад свяшчэннаслужыцеляў і вітаем адзін аднаго выратавальным воклічам: "Хрыстос Уваскрэс!"

Што можа параўнацца з пасхальнай радасцю, з гэтай вялікай урачыстасцю? Ці ёсць іншыя словы, якія могуць з большай глыбінёю перадаць сутнасць таго, што зрабіў Бог для чалавека, што Ён з любоўю падрыхтаваў для кожнага з нас, адкрыўшы шлях да паўнаты зносін з Богам і радасці вечнага жыцця.

Уся паўната благадаці, якую хрысціянін знаходзіць у Царкве, дзеянні Промыслу Божага, якія праяўляюцца ў нашым жыцці, прабачэнне грахоў і духоўнае адраджэнне праз таінствы Пакаяння і Еўхарыстыі, невымоўная радасць, якая даруецца нам Духам Святым - усё гэта плады Хрыстовага Уваскрасення, якія кожны з нас мае магчымасць перажываць на ўласным вопыце і бачыць сваімі духоўнымі вачыма.

"Уваскрасенне Хрыстова бачыўшы, пакланімся Святому Госпаду Іісусу", - заклікае нас Царква на пасхальных і нядзельных богаслужэннях, бо кожнае нядзельнае богаслужэнне - гэта малая Пасха. І сёння нам асабліва важна ўсвядоміць, чаму ў гэтым песнапенні гаворыцца пра тое, што мы ўжо бачылі Хрыстова Уваскрасенне, а не проста верым у яго.

На гэта адказвае нам прападобны Сімяён Новы Багаслоў: "Уваскрасенне Хрыстова адбываецца ў кожным з нас, і не аднойчы, але штогадзінна, калі Сам Уладыка Хрыстос паўстае ў нас у светлым адзенні, бліскаючы маланкамі бяссмерця і Бажаства. Бо светланоснае прышэсце Духа паказвае нам уваскрасенне Уладыкі, дакладней, дарує нам бачыць Яго Самога уваскрэслым".

Калі ж мінаюць дні Вялікага посту і святкавання Пасхі, нам часам здаецца, што мы губляем духоўную радасць і жыццё наша зноў пазбаўляецца паўнаты і асэнсаванасці. Таму і заклікае нас вялікі падзвіжнік сучаснасці архімандрыт Яфрэм Філафейскі: "Не дапусціце, каб атрыманае цяпер было развеяна ветрам, не згубіце гэтага, трымайце глыбока ў сваім сэрцы, ажыццявіце на справе, каб атрымаць карысць і спазнаць прыгажосць Царства Божага".

Як жа захаваць гэтую радасць і духоўную настроенасць? У творах святых айцоў гаворыцца, што паслушэнства - гэта самы кароткі шлях да збаўлення і здабыцця духоўнай радасці. І ў нашы дні яно прыносіць той самы благадатны плён. Паслушэнства ў Госпадзе свяшчэннаслужыцеляў і манахаў - свайму свяшчэннаначаллю, малодшых - старэйшым, падначаленых - начальнікам, дзяцей - бацькам, нясенне нягод, немачаў адзін аднаго - усё гэта, несумненна, стварае гармонію не толькі ў грамадскім і паўсядзённым, але і ў духоўным жыцці.

Але асабліва збавіцельна паслушэнства хрысціяніна Царкве. Бо ўсё ў ёй падпарадкавана адной мэце - выратаванню чалавека, яго паўнаце жыцця з Богам. І калі мы разам з Царквою святкуем і радуемся, смуткуем і посцімся, прасвятляемся і асвячаемся, то ніколі і нідзе не страцім таго бачання Хрыстовага Уваскрасення, пра якое нам абвяшчае пасхальнае богаслужэнне. Будзем любіць Царкву, захоўваць Ёй вернасць - і радасць Пасхі ніколі не пакіне нас!

Памятаючы пра гэта, ва ўсіх абставінах нашага жыцця пастараемся захоўваць той мір, пра які гаварыў Гасподзь у сваім настаўленні вучням: "Мір пакідаю вам, мір Мой даю вам; не так, як свет дае, Я даю вам" (Ін. 14, 27). І кожны хрысціянін на тым месцы, дзе яму Бог благаславіў працаваць і жыць, заклікаыны пераадольваць варожасць і разлад і несці "дух мірны", які Гасподзь дарує ўсім тым, хто жыве ў малітве і паслушэнстве Яго запаведзям.

Зноў і зноў віншую Вас, дарагія, са Светлым Хрыстовым Уваскрасеннем! Няхай кожны з нас знаходзіцца ў той радасці, якой сёння мы ўсе напоўнены, няхай гэтая радасць стане крыніцай вады жывой, якая цячэ ў жыццё вечнае і насычае ўсіх тых, хто побач з намі. Няхай благаславіць Уваскрэслы з мёртвых Гасподзь усе нашы намаганні на дабрадзеянне бліжнім і ўсёй нашай Айчыне! І будзем няспынна дзякаваць Богу за благадатныя плады Яго перамогі над грахом і смерцю, якія Ён шчодра падае ў Сваёй святой Царкве!

Сапраўды Уваскрэс Хрыстос!
**+ВЕНІЯМІН,**
Мітрапаліт Менскі і Заслаўскі,
Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі.

Пасха Хрыстова, 2025,
горад Менск.





# У панядзелак 21 красавіка ў актаве Пасхі ва ўзросце 88-мі гадоў адышоў у вечнасць Папа Францішак

Як падае партал Vatican News, 21 красавіка раніцай камерленг Святога Рымскага Касцёла кардынал Кевін Фарэл даслаў паведамленне з Дому святой Марты:

*"Дарагія браты і сёстры, з глыбокім смуткам я павінен абвясціць аб смерці нашага Святога Айца Францішка. Сёння раніцай у 7.35 біскуп Рыма Францішак вярнуўся ў дом Айца.*

*Усё яго жыццё было прысвечана служэнню Пану і Яго Касцёлу. Ён вучыў нас жыць каштоўнасцямі Евангелля з вернасцю, адвагай і ўсеагульнай любоўю, асабліва на карысць самых бедных і маргіналізаваных.*

*З велізарнай удзячнасцю за яго прыклад сапраўднага вучня Пана Езуса мы даручаем душу Папы Францішка бясконцай міласэрнай любові Бога Адзінага ў Тройцы".*




Таксама стала вядома, што 21 красавіка ў менскім катэдральным касцёле Найсвяцейшага Імя Марыі арцыбіскуп Юзаф Станеўскі, Мітрапаліт Менска-Магілёўскі, Старшыня Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі, узначаліў святую Імшу ў інтэнцыі спачылага Папы Францішка, якая была папярэджана малітвай Вяночка да Божай Міласэрнасці.

Пачатак у 15.00.

У галоўным касцёле Менска-Магілёўскай архідыяцэзіі быў выстаўлены партрэт Папы Францішка. Вернікі мелі магчымасць прыносіць кветкі і маліцца аб жыцці вечным для спачылага Пантыфіка на працягу ўсяго дня.

Арцыпастыр запрашае ўсіх жадаючых далучыцца да супольнай малітвы за Папу Францішка.

***catholic.by.***

***Фота: vaticannews.va.***

# Велікоднае віншаванне Мітрапаліта Менска-Магілёўскага Арцыбіскупа Юзафа Станеўскага

*(Заканчэнне. Пачатак на ст. 1.)*

Няхай запалаюць нашыя сэрцы, калі Уваскрослы Хрыстус прыйдзе да нас са сваім Словам - Добрай Навіной - і Хлебам Жыцця ў Святой Камуніі.

Марыя, Маці надзеі, няхай выпрасіць нам дар пасхальнай радасці і вядзе да свайго Сына шляхам праўды, дабра і спакою ў пілігрымаванні Юбілейнага года хрысціянства.

Няхай Вялікдзень паселіцца ў вашых сэрцах з надзеяй і ўсімі шчодрымі і неабходнымі ласкамі. Няхай Уваскрасенне Пана дасць вам моц, напоўніць вашыя дні спакоем, вясновым цяплом, любоўю і згодай!

Дарагія браты і сёстры! Няхай раданае і трыумфальнае Аллелюя! Хрыстус уваскрос! гучыць у нашых сэрцах так, як гучыць сёння ва ўсіх хрысціянскіх святынях нашай любай Беларусі, бо сёння ўсе хрысціяне з надзеяй святкуюць Пасху - Вялікі Дзень у гісторыі хрысціянства і ўсяго чалавецтва. Сёння званы хрысціянскіх святыняў зліваюцца ў адну мелодыю радаснага абвяшчэння: Хрыстус уваскрос. Сапраўды уваскрос!

*Таму, любыя браты і сёстры - хрысціяне, -*
*Слёзы з твару выціраўце, праганяйце з сэрцаў грэх.*
*Песні радасна спявайце, хай гучыць вясёлы смех.*
*Уваскрос Пан над Панамі, Ён жыве, Ён разам з намі!*

На ўзнёслае і радаснае святкаванне Вялікадня, каб Хрыстом "запалалі нашыя сэрцы", шчыра благаслаўляю…

У імя Айца і Сына, і Духа Святога. Амэн.

Хрыстус уваскрос! Сапраўды ўваскрос! Аллелюя!

*Арцыбіскуп Юзаф Станеўскі,*
*Мітрапаліт Менска-Магілёўскі.*

# Навукова-практычная канферэнцыя "XII Лідскія чытанні". Тэма: "Літаратура і друк на Лідчыне"

16 красавіка 2025 года ў Лідскай раённай бібліятэцы імя Янкі Купалы прайшла навукова-практычная канферэнцыя "XII Лідскія чытанні" на тэму "Літаратура і друк на Лідчыне".




Штогод сталіцай Дня беларускага пісьменства вызначаецца горад, які пакінуў адметны след у гісторыі беларускай зямлі як цэнтр кнігадрукавання і літаратуры, цэнтр асветы і культуры. Трыццаць другое свята Дня






беларускага пісьменства сёлета ладзіцца ў Лідзе. Менавіта гэтай тэме была прысвечана навукова-практычная канферэнцыя "XII Лідскія чытанні". На мерапрыемства былі запрошаны мовазнаўцы, настаўнікі, студэнты, краязнаўцы



і іншыя. Падчас работы навуковай канферэнцыі ў чытальнай зале дзейнічалі кніжныя выставы "Узрасло буйным коласам зерне Скарыны", прысвечаная гісторыі кнігадрукавання на Беларусі і "Лідчына літаратурная", прысвечаная пісьменнікам, якія нарадзіліся на Лідчыне, або ўнеслі яркі след у гісторыю старажытнага горада. У літаратурным жыцці горада значнае месца займае літаратурнае аб'яднанне "Суквецце" пры рэдакцыі "Лідскай газеты". Яго ўдзельнікі спрабуць свае сілы ў паэзіі, прозе, драматургіі. Яны рэгулярна друкуюцца на старонках раённай газеты і друкуюць кнігі, якія дораць бібліятэке. Менавіта кнігі-падарункі з уласнымі аўтографамі аўтараў былі прадстаўлены на гэтай выставе.

З прывітальным словам выступіла Быстрыцкая Алена Адамаўна, намеснік дырэктара Лідскай раённай бібліятэкі імя Янкі Купалы. Потым з дакладамі выступілі удзельнікі канферэнцыі. Беларускі моваязнавец, паэт, празаік, крытык, супрацоўнік Цэнтра даследванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі Юрый Пацюпа выступіў з дакладам "Вільгельм Пратасевіч як асоба і аўтар паэмы "Суседчык Гавейскі"".





Анашкевіч Наталля, настаўніца рускай мовы і літаратуры ДУА "СШ № 11 г. Ліды" прадставіла краязнаўча-пошукавую работу "Феномен поэта и поэзии в литературе Лидчины".



Мы ганарымся, што у нашым прынёманскім краі ўпершыню прагучаў мужны голас Петруся Граніта і Васіля Струменя. Горад Ліда стаў важным этапам у жыцці беларускіх паэтаў Валянціна Таўлая і Ніны Тарас. Менавіта гэтай тэме быў прысвечаны даклад Алеся Хітруна "Лідская заходне-беларуская літаратура: Ніна Тарас, Пятрусь Граніт, Васіль Струмень… у фондах ДУ "Лідскі гісторыка-мастацкі музей".



Метадыст аддзела метадычнай і культурна-масавай работы ДУ "Лідскі раённы цэнтр культуры і народнай творчасці" Ірына Струмкіс раскрыла тэму "Выданне фальклорна-этнаграфічных зборнікаў на Лідчыне".







Студэнты Лідскага каледжа Сабадаха Дар'я і Юхно Марыя выступілі з дакладамі, у якіх асвятлілі тэмы літаратурна-асветніцкай дзейнасці Цёткі і Каруся Каганца, творчасць якіх займае значнае месца ў беларускай літаратуры.






Пісьменнік і краязнавец Станілаў Суднік выступіў з дакладам "Лідская літаратура 1919-1939 гг", у якім раскрыў тэму Лідчыны шматмоўнай.



Валерый Мацулевіч рассказаў пра выдатнага журналіста і паэта, які ўславіў Лідчыну ў трох зборніках "Леў і ключы", "Горад-карабель", "Бронзавы Гедымін", у дакладзе "Творчасць лідскага паэта, журналіста Алеся Мацулевіча".



Завяршыла мерапрыемства Галіна Курбыка, бібліёграф Лідскай раённай бібліятэкі імя Янкі Купалы дакладам "Кніга беларускі народны арнамент" - рэліквія Лідчыны. Яна пазнаёміла з кнігай-рарытэтам, падарункам жонкі Янкі Купалы Уладзіславы Францаўны Луцэвіч "Беларускі народны арнамент" 1953 года выдання з дарчым надпісам ад 29 чэрвеня 1956 года, якая захоўваецца ў чытальнай зале бібліятэкі.





*Бібліёграф Лідскай раённай бібліятэкі імя Янкі Купалы*
***Галіна Раманаўна Курбыка.***





# Прэзентацыя кніг Людмілы Краснадубскай "Заранкавы край" і "Яшчэ адзін дзень"

Кніга - адно з самых геніяльных дасягненняў чалавецтва. Яна дапамагае пісьменніку праліваць свае пачуцці, захоўваць сваё светаадчуванне, марыць аб будучыні і ўспамінаць мінулае, вывучаць сучаснасць.

16 красавіка ў Лідскай раённай бібліятэцы імя Янкі Купалы адбылася прэзентацыя кніг Людмілы Краснадубскай "Заранкавы край" і "Яшчэ адзін дзень". Адразу дзве кнігі прадставіла на суд чытачоў лідская паэтка Людміла Краснадубская ў год, калі Ліда стала сталіцай беларускага пісьменства.




Сябры і прыхільнікі таленту Людмілы Мікалаеўны змаглі пагрузіцца ў дзіўны свет паэзіі. Даведаліся з першых вуснаў не толькі пра тое, якой была яе дарога ў свет паэзіі, але і дзе яна чэрпае натхненне і якія яе творчыя планы. Шмат цёплых слоў гучала на адрас паэткі. Гасцям прадставілася магчымасць атрымаць асалоду ад шчырага і выразнага аўтарскага выканання. Некалькі кніг з аўтографамі аўтара папоўнілі фонд Лідскай раённай бібліятэкі імя Янкі Купалы.







Людміла Мікалаеўна - чалавек з актыўнай пазіцыяй. Яна заўжды з радасцю бярэ ўдзел у розных мерапрыемствах. Яе талент ацэнены мноствам узнагарод розных паэтычных конкурсаў.

Творчы вечар прайшоў у цёплай і душэўнай атмасферы. Адназначна, такія сустрэчы выхоўваюць пачуццё гонару да роднага краю, прыгажосці малой радзімы і дапамагаюць акунуцца ў яркі і захапляльны свет літаратуры. Вершы Людмілы Мікалаеўны пакінулі ў душы кожнага цёплыя і глыбокія пачуцці.

*Бібліятэкар аддзела бібліятэчнага маркетынгу, сацыякультурнай дзейнасці і метадычнай работы*
***Кацярына Станіславаўна Сандакова.***



# Новая кніга Леаніда Лаўрэша




У выдавецтве Ridero выйшла кніга Леаніда Лаўрэша "Тэадор Нарбут. Навуковая і літаратурная дзейнасць, сям'я і сядзіба, яго час".

Кніга грунтуецца на архівах, успамінах і перапісцы гісторыка.

На першай старонцы вокладкі - здымак касцёла ў Эйшышкес (Эйшышкі), пабудаванага па праекце Тэадора Нарбута.

Гісторыя сям'і Нарбутаў сыходзіць каранямі ў вельмі далёкія часы. Сярод прадстаўнікоў гэтага роду меліся вайскоўцы, палітыкі, пісьменнікі і гісторыкі. Асаблівае месца сярод іх займае Тэадор Нарбут.

Гэта на сёння лепшая кніга пра Тэадора Нарбута, пра чалавека, які сам распачаў і сам закончыў (скажам гэта смела) сваю вялікую справу. Сваімі намаганнямі і за свой кошт, праз археалагічныя раскопкі і пошукі ў далёкіх архівах ён стварыў гісторыю ВКЛ і праклаў дарогу для яе даследчыкаў у будучыні.

Электронны варыянт кнігі можна будзе купіць у Інтэрнэце. Папяровая кніга будзе ў Лідскай раённай бібліятэцы, Нацыянальнай бібліятэцы, а таксама ва ўсіх бібліятэках адпаведна з лістом рассылкі.

*Наш кар.*

.

# Лідскі музей у Смаленскай цвердзі

ДУ "Лідскі гісторыка-мастацкі музей" сумесна з дзяржаўным музеем "Смаленская цвердзь" рэалізуе новую праграму ўзаемадзеяння і культурнага абмену, накіраваную на ўмацаванне міжрэгіянальных культурных сувязяў і павышэнне турыстычнай прывабнасці рэгіёнаў.

20-21 красавіка на адкрытай пляцоўцы каля вежы Грымотнай у Смаленску працавала выстава "Лідскі музей запрашае сяброў", дзе супрацоўнікі музея прэзентавалі свае праграмы, музейныя заняткі, майстар-класы і правודзілі дэгустацыю прадукцыі Лідскіх прадпрыемстваў




У дзяржаўным музеі "Смаленская цвердзь" у рамках дзелавой сустрэчы адбылася прэзентацыя праектаў ДУ "Лідскі гісторыка-мастацкі музей", накіраваных на падвышэнне турыстычнай прывабнасці Лідскага раёна.



*ТК "Культура Лідчыны".*

Леанід Лаўрэш

# З жыцця Мікалая Сапегі

Апошнім часам пачаў падрыхтоўку ўсяго мною раней напісанага пра цэрквы Лідчыны для будучай зусім не малой кнігі. Рэдагуючы артыкул пра прыходы ў Ганчарах і Дакудаве[1] (раней да іх адносілася і царква ў Вашкевічах (Васькавічах)) звярнуў ўвагу на раней ужо надрукаваны кавалак свайго ж тэксту, што Мікалай Сапега (†1599) загадаў пахаваць яго "паводле абраду *"рэлігіі маёй грэцкай каталіцкае"*", чатыры гады таму я заўважыў толькі, што гэта цікавы момант. А сёння, спыніўся і задумаўся.

Берасцейская царкоўная унія была падпісана толькі ў 1596 г., і вось самы сапраўдны магнат, гаспадарскі маршалак, а потым па чарзе ваявода менскі, берасцейскі і віцебскі Мікалай Сапега, прадстаўнік знакамітага роду, адразу пасля уніі ў сваім тастаменце называе унію сваёй рэлігіяй. Чамусьці да гэтага часу, на гэта ніхто не звярнуў увагі. Я парадзіўся з лепшым на сёння, па маім меркаванні, спецыялістам пра гісторыі рэлігіі, і прафесар адказала мне, што гэта адкрыццё. Зразумела, мікраадкрыццё, але з гэтага і складаецца сапраўдная, не выдуманая гісторыя.

Здаецца агульнавядомым магнатам - грэка-католікам таго часу лічыўся толькі навагрудскі стараста Тэадор (Фёдар) Скумін Тышкевіч. Першапачаткова Тэадор Скумін-Тышкевіч выступаў супраць аб'яднання цэркваў, але потым стаў яго прыхільнікам. Мітрапаліт Макарый у сваёй "Гісторыі Рускай царквы" пісаў: *"…і навагрудскі ваявода Скумін-Тышкевіч, які настолькі раней быў супраць уніі, зараз прыняў яе і зрабіўся яе заступнікам"*. Вядома, што Скуміна-Тышкевіча навярнуў у унію ў Вільні сам св. Язафат Кунцэвіч[2].

Як і Мікалай Сапега, Тышкевіч быў высокаадукаваным чалавекам, вучобу ва ўніверсітэце ён пачаў у Базелі, потым вучыўся ў Цюбінгене (1560 г.) і заканчваў адукацыю ў Ляйпцыгу (1563 г.), у Базельскім універсітэце быў запісаны як "Fridericus Skumin Lithuanus" [3].

А Мікалай Сапега ў кнігу студэнтаў Ляйпцыгскага ўніверсітэта ўзімку 1545 г. запісаўся як "Nicolaus Sapei ex Rossa". Увосень 1546 г. яго звінавацілі за ўдзел у бойцы з другім студэнтам, і Сапегу давялося адкупляцца. Узімку 1547 г. ужо як "Litunus" ён зарэгістраваўся ва ўніверсітэце Караляўца, дзе вучыўся і ў наступным годзе[4].

Два магнаты, Скумін-Тышкекіч і Сапега, добра




ведалі адзін аднаго, бо ў пачатку студзеня 1577 г. кароль даручыў ім сумесна з мазавецкім ваяводам Станіславам Крыскім пасольства ў Маскву[5].

Мікалай Сапега ў сваім першым тастаменце ад 10 лістапада 1598 г., выдзяліў невялікія сумы на цэрквы ў Вішніцах і Кодані[6], на коданскі касцёл і віленскую царкву Святой Троіцы і падкрэсліў, каб у мураванай царкве Святога Духа ў Кодані, дзе пахаваная яго маці, адпраўлялі набажэнствы *"не інакшым якім спосабам, а толькі паводле старадаўняга звычаю, як было ў продкаў маіх паводле рэлігіі грэцкае"* [7]. Гэта патрабаванне амаль што

[1] Гл: Лаўрэш Леанід. Прыходы ў Ганчарах і Дакудаве // Лідскі Летапісец. 2020. № 4(92). С. 44-71.

[2] Erka [Уладзіслаў Талочка]. Sw. Jozafat w Wilnie // Preglad Wilenski. № 21, 16 grudnia 1923. S. 3-10.

[3] Zoladz-Strzelczyk Dorota. Peregrinatio academica. Studia mlodzezy polskiej z Korony i Litwy na akademijach i uniwersytetach niemieckich w XVI i pierwszej polowie XVII wieku. Poznan, 1996. S. 59; 231.

[4] Polski slownik biograficzny T. 35. Warszawa - Krakow, 1994. S. 116.

[5] Там жа. S. 117.

[6] Цяпер у Бяльскім павеце Польшчы, у тыя часы - Кодань знаходзіўся ў Берасцейскім павеце

[7] Там жа. S. 119.



даслоўна паўтарае аналагічнае жаданне фундатараў Маламажэйкаўсякай царквы, зробленае і запісанае амаль што адначасова: *"… въ той церкви иншое набоженство не маетъ быть уживано, одно на што есть уфундовано старожитное веры светобливое хрестианское, закону хрестианского ..."* [8].

Аналагічную палітыку падтрымкі грэчаскай веры праводзіў і Мікалай Радзівіл Сіротка ў Нясвіжы.

У **"Дарчым лісце Літоўскага дворнага маршалка Мікалая Хрыстафора Радзівіла святару Нявіжскай Прачысценскай царквы Якаву Семяновічу"** [9] ад 21 красавіка 1577 г. пазначана:

*"...далі гэтым лістом нашым у моц і ва ўсялякія... святую царкву нашую рускую заснавання Нараджэння Прачыстай, на прадмесці горада нашага Нясвіжскага, святару... нашаму папу Якаву Семяновічу з усім на ўсё і... пажыткамі і прыходамі царкоўнымі аж...*

*... А з таго ўсяго, што вышэй названа, ні адной ніякай павіннасці ані падачы даваць не будзе, аж да смерці сваёй, адно толькі службу Божыю і ўсялякія цырымоніі, паводле старадаўняга звычаю і прыналежнасці сваёй кіраўніцтву духоўнаму закону іх грэчаскаму пры той царкве нашай чыніць і парадкаваць мае і павінен будзе".*

Думаю, што гэтыя патрабаванні выкліканы моцным уздымам пратэстантызму у той час. Напрыклад у Лідзе тады з-за адсутнасці вернікаў зачыніўся Фарны касцёл, а суседнія з Малым Мажэйкавам Ваверскі і Дылеўскі касцёлы на некаторы час сталі пратэстанцкімі зборамі.

Але падабенства на гэтым не заканчваецца. У 1513-1520 гг. ў маёмасці Сапегаў Кодані дзед і бацька Мікалая Сапегі - Іван і Павел Сапегі, фундавалі Мураваную царкву якая да XIX стагоддзя была дворнай капліцай роду Сапегаў. Гэтая гатычная Святадухаўская царква з'яўляецца помнікам абарончага дойлідства XVI ст., - роднай сястрой нашых Маламажэйкаўскай і Сынкавіцкіх цэркваў.

Дадам, што як пасаг за другую жонку Ганну з Вішнявецкіх, дачку валынскага ваяводы Андрэя (шлюб яны ўзялі, верагодна, у 1581 г.,), разам з іншай маёмасцю Мікалай Сапега атрымаў і двор Вашкеічы (Васькевічы) ў Лідскім павеце.

У сваім апошнім тастаманце ад 1 лістапада 1599 г. (у дзень сваёй смерці) Мікалай Сапега пакінуў усе ранейшыя фундушы і пацвердзіў ранейшыя ўклады для шпіталя на 10 убогіх у Кодані. Адначасна фундаваў у Кодані храм св. Ганны, у якім наказаў пахаваць сябе і перапахаваць сюды сваю другую жонку. Паколькі пабудова не была завершаная, Мікалай абавязаў апекуноў сваіх непаўнагадовых дзяцей выканаць яго апошнюю волю. Коданскіх





***Касцёл Святога духа ў Кодані***

плябанаў абавязаў утрымліваць школьнага бакалаўра *"для навучання дзетак"*.

Мікалай Паўлавіч Сапега памёр 1 лістапада 1599 г. у Кодані і быў пахаваны ў касцёле св. Ганны побач з жонкай, паводле абраду *"рэлігіі маёй грэцкай каталіцкае"*. Яшчэ раз, праз некалькі год пасля падпісання Берасцейскай уніі, адзін з самых уплывовых магнатаў ВКЛ называе сваёй грэка-каталіцкую рэлігію.

У 1610 г. сын Мікалая ўсталяваў над магілай бацькоў агульны помнік[10].

Мікалай Сапега паходзіў з кодзенскай лініі магнацкага роду Сапегаў герба "Ліс", сын Паўла і Алены, дачкі князя Юрыя Іванавіча Гальшанскага-Дубравіцкага. Выхаваны быў у праваслаўі, працяглы час быў пратэстантам, але пры канцы жыцця вярнуўся ў бацькоўскую веру. Пра гэтую цікавую асобу маецца грунтоўны артыкул Генрыка Люлевіча ў "Біяграфічным слоўніку", які існуе і ў перакладзе на беларускую мову[11].

---

[8] Маломожейковская "Мурованная" церковь. Вильна, 1907. С. 9-10.

[9] "Нясвіжскія каеты", № 10, 2022 г., стст. 67-68.

[10] Polski slownik biograficzny T. 35. Warszawa - Krakow, 1994. S. 119.

[11] Polski slownik biograficzny T. 35. Warszawa - Krakow, 1994. S. 116-119; Гісторыя Сапегаў. Жыццяпісы, маёнткі, фундацыі. Укладальнік Яўстах Сапега. Мінск, 2017. С. 141-146.

Станіслаў Мараўскі

# Некалькі гадоў маёй маладосці ў Вільні[1] (1818-1825)

*(Працяг. Пачатак упапярэдніх нумарах.)*

Аднак неўзабаве, прыдворныя, пачалі раз за разам казаць майму бацьку, што кароль - яны так яго называлі, вельмі здзіўлены, што так даўно яго не бачыў. Прапускаў гэта міма вушэй. Нарэшце, адзін з іх, адвёўшы майго бацьку ўбок, з вельмі сур'ёзным тварам сказаў, што кароль хоча яго бачыць і гатовы нават прыняць яго як прыватная асоба. Адмовіцца не выпадала і бацька пайшоў. Людовік XVIII, як і раней, прыняў яго вельмі прыязна. Але з вялікай радасцю на твары, звычайным кіўком ён развітаўся з прыдворнымі і, як толькі яны выйшлі, правёў бацьку ў свой кабінет, зачыніў за сабой дзверы і пасадзіў каля сябе.

Мой стары здзівіўся і спытаў сам у сябе, што ўсё гэта значыць? Пэўна, хоча пазычыць грошы! Нарэшце Людовік XVIII, пачырванеўшы, прызнаўся, што хоча даверыць адну вельмі важную асабістую акалічнасць. Ён упэўнены ў далікатнасці і бачыць па твары майго бацькі, - князь лічыў сябе знаўцам людзей - што яго таямніца будзе захавана. "Якога ліха", - думаў бацька: "Мабыць, хоча ўцягнуць у нейкую палітычную інтрыгу. Але нічога з гэтага не выйдзе! Досыць і сваіх маю!".

А Людовік XVIII працягваў: "Мне сорамна прызнацца вам у тым, што я хачу вам даверыць. Але вы павінны мяне выслухаць. Уведзены з зман нядбалым слугой, меў слабасць уступіць у адносіны з нейкай мясцовай жанчынай, якая заразіла мяне …, каб хоць нешта іншае … якая заразіла мяне … хм, хм, каростай!". Небарака зняў пальчаткі і паказаў зраненыя рукі! Гэта была сапраўдная, парадная, княжацкая, каралеўская часотка ці кароста, як яе называюць ліцвіны. Ніякі яўрэй у Еўропе не мог бы пахваліцца лепшай! "Не маю больш моцы", - сказаў кароль са слязамі на вачах: "Не магу прызнацца ў гэтым ніводнаму са сваіх прыдворных. Страціў бы павагу і шанаванне. Каб нейкая іншая хвароба, мне было б лягчэй! Але вось гэта! Шляхціц, хоць ты і быў народжаны для трону, але не ведаеш, каралеўскіх клопатаў. Якія дробязі могуць нас узвысіць ці наадварот, пагубіць у вачах народа. Я адкрыўся вам, ратуйце мяне. Вы ведаеце ўсіх дактароў. Выберыце лепшага, які захавае таямніцу. Які б лёс мяне не чакаў, даю слова, што ніколі не забуду гэтай ласкі!".

Бацька злітаваўся, пашкадаваў беднага караля і ўсё залатвіў. Не памятаю дакладна, але здаецца, прывёў яму старога доктара Кюрмса. Усё прайшло добра, і праз нейкі час Людовік XVIII смела дазваляў цалаваць сваю руку французам.

Зразумела, што ніхто не нагадаў чалавеку, які сеў на трон, пра гэтую паслугу. І кароль таксама зусім забыўся пра яе, і ці варта помніць такое?

### Раздзел 7

**Генерал Хацкевіч і анекдоты пра яго. Пані віцагубернатарава Бабацянская. Канонік Снарскі. Панна Халхоўская. Справа Хацкевіча з паннай Барэнцкай**

Паколькі я ўжо некалькі разоў згадваў імя Хацкевіча і таму мушу зноў яго тут успомніць. У часы, калі я жыў у Вільні, гэтае прозвішча было так папулярнае і ўсім патрэбнае, як патрэбна соль у страве. Генерал Хацкеіч[107], несумненна, быў адной з тых асоб, якіх ужо больш не будзе і пра якіх трэба расказваць, каб памяць пра іх не сышла. Трэба, каб яны пакінулі хоць нейкі след у гісторыі.

Заўсёды былі і будуць розныя авантурнікі адпаведныя духу грамадства і духу часу. Заўсёды былі і будуць патаемныя нягоднікі, свавольнікі, распуснікі, шулеры, злачынцы, якія жылі ў цені і якімі пагарджала толькі мізэрная частка грамадства, у якім яны дзейнічалі. Таму і вядомасць іх не выйшла за межы тракціра ці шынка. Але Хацкевіч быў сапраўдным шляхетным каралём нягоднікаў з адпаведнай павагай і ўладай. Ён быў геніем распусных свавольнікаў і псотнікаў, быў акружаны дзіўнай прыхільнасцю, любоўю і павагай грамадства ўсёй Еўропы. Гэта

[1] Morawski Stanislaw. Kilka lat mlodosci mojej w Wilnie (1818-1825). Warszawa, 1924. *Пераклад Леаніда Лаўрэша.*

[107] Ігнацый Хацкевіч ці Хадзкевіч (?1760-1823). Восіп Пшацлаўскі успамінаў: "Хацкевіч, французскі генерал 10-х гадоў нашага стагоддзя (XIX ст. - *Л. Л.*), вядомы ў Францыі пад імем le general Lodoiska, еўрапейскай славы шулер і герой незлічонай колькасці самых адчайных выхадак, заўсёды амаль asum acumine (вострых - *Л. Л.*), бо гэта быў чалавек незвычайнага розуму. У адзін час ён быў пасланы ад напалеонаўскага ўрада ў Вену з вялікай колькасцю фальшывых банкнот, якія павінен быў пусціць у абарачэнне і тым зламаць аўстрыйскія фінансы. Хацкевіч амаль цалкам дасягнуў гэтай мэты, але на апошняй аперацыі быў злоўлены і прыгавораны да смяротнага пакарання. Ён, аднак жа, паспеў уцячы з цвердзі, дзе ўтрымліваўся". - гл: Пшацлаўскі Восіп. Калейдаскоп успамінаў: Т. 1. Мінск, 2012. С. 327. - *Л. Л.*

быў Рынальда ці Фра-Д'ябла[108], нягоднік, па якім ва ўсім свеце плачуць людзі і пасля гібелі якога шкадуюць аб ім у сто разоў болей, чым пра добрага пана ці пані, якім Фра-Д'ябла рабіў штукі.

Пісаў нядаўна Булгарыну[109], выбітнаму прадстаўніку нашага народа, які, як і Сянкоўскі, заслужыў вялікую вядомасць у рускай літаратуры. Прачытаў ягоны дзённік і напісаў яму такія словы: *"Але цікава, чаму ў сваіх успамінах вы нічога не напісалі пра рэдкі і своеасаблівы тып чалавека, пра нашага Казанову, пра Хацкевіча, пра генерала Хацкевіча, кожнае слова якога іскрылася досціпам, а кожны жэст быў гарэзлівай хітрасцю. Пра чалавека, у якім элегантнасць, велікадушнасць, ветлівасць і дасканаласць вялікага пана спалучалася з цынізмам грубіяна, найвышэйшае самалюбства з поўным адмаўленнем справы гонару. Пра чалавека які паўсюдна сам сябе і славіў і ганьбіў, якога ўсе баяліся як Картуша, але пры гэтым прымалі з павагай і любоўю?"*.

Гэта апісанне мне падаецца трапным накідам і разам з тысячамі і тысячамі анекдотаў, якія пра яго захаваліся, можа ілюстраваць некаторыя з тых момантаў, на якіх я спынюся ніжэй. Папярэджваю, што, пэўна, мая памяць дагэтуль захавала толькі самыя цікавыя з іх. Пішучы ў вёсцы, аддалены да ўсялякіх стасункаў з людзьмі старога часу, я не магу згадаць пра яго нешта больш цікавае.

Як я ўжо казаў, я асабіста не ведаў генерала Хацкевіча, але ў мае часы ўся Вільня яшчэ поўнілася гісторыямі пра яго. З 1815 г. (жыў ён здаецца да 1823 г.), Хацкевіч ужо не паказваўся тут - ці састарэў, ці прыйшлі неспрыяльныя для яго часы. Жыў ён на Валыні ў сваім маёнтку, або ў Еўропе, бо для яго шляхі ў Кіеў, Лондан, Неапаль, Парыж, Вену і г. д., хоць і не мелася яшчэ чыгункі, былі як для мухі пералёт з чаравіка на далонь прыгожай панны.

Я не ведаю паходжанне роду Хацкевічаў. Ён служыў у польскіх легіёнах у Італіі ў Банапарта і Шампьёна[110], і абодва гэтыя чалавекі вельмі любілі і паважалі яго. Казалі, што ў адной з бітваў, калі на Шампьёна наскочылі немцы, Хацкевіч адным узмахам палаша адцяў галаву самаму вялікаму з нападаючых - ён заўсёды дэманстраваў сваю незвычайную адвагу. Але таксама казалі, што калі яму не хацелася ваяваць ці калі не меў адпаведнага настрою, дык часта ўцякаў з поля бою і зусім не клапаціўся пра тое, што яго могуць назваць баязліўцам, бо кожны ведаў, што з яго боку гэта сваволля і капрыз, а не баязлівасць. Пакінуўшы войска, ён аблётаў усю Еўропу, паўсюдна граў у карты і потым раптам з'явіўся ў Вільні, горадзе, які ў той час быў сапраўдным Эльдарада для шулераў, Хацкевіч меў шмат грошай гатоўкай, дарагіх камянёў, каштоўных рэчаў і ўсяго іншага. Адразу пачаў паводзіць сябе як магнат і жыць па-свайму.

Хацкевіч меў прыгожы, мужны твар. Ён заўсёды высока задзіраў нос. Меў моцны, зухаваты і ўпэўнены голас, калі хацеў, меў прыемныя манеры, але паводзіў сябе прыстасоўваючыся да акалічнасцяў. На ім была самая дарагая вопратка, самая якасная і заўсёды свежая французская бялізна, але ўсё гэта ён насіў нядбайна, як бы з неахвотай. Фракі падраныя, кашулі белыя, як снег, але пакамечаныя. Калі страчваў кашалёк, залатую табакерку і нечы лакей паднімаў іх, гэтыя рэчы былі ўжо яго! Увесь быў час аточаны махлярамі, свавольнікамі і псотнікамі, узятымі з усіх саслоўяў, называў іх "пляткарамі", і чым большым нягоднікам выяўляў сябе, тым больш уздымаўся яго аўтарытэт. Здавалася, Хацкевіч сябраваў толькі з нягоднікамі, але гэта толькі здавалася, бо добра ведаў людзей і ўмеў іх цаніць. "Пляткары" мелі поўнае права на яго шыкоўны стол, на яго кватэру, на яго кішэні, кожны дзень яны жменямі цягнулі золата з яго куфра. Але, калі трэба, па яго першым жаданні яны гатовыя былі выканаць любы загад. Гатовыя былі днём і ноччу ляцець у любы кут Літвы, Валыні, Украіны, Падолля ці яшчэ далей, каб зрабіць, каму трэба, штуку ці ўмела адпомсціць, ці вышпегаваць грошы, ці дзе будзе збор людзей - баль, кірмаш, пікнік ці нешта падобнае, дзе шулерам знойдзецца месца. Дзе стаяць кватэрай рускія генералы і палкоўнікі, ці ёсць у іх грошы і ці жадаюць яны гуляць у карты? Чым можна іх завабіць? Якія маюць слабыя бакі, ці умеюць падманваць і г. д. Пры гэтым "пляткары" павінны былі захоўваць яго сакрэты пад страхам самай жорсткай і непазбежнай помсты.

Сам сябе называў першым нягоднікам у свеце. Калі ў некага знікала нешта каштоўнае, ён не баяўся сказаць: "Паглядзіце, вось гэтая рэч на мне!". Аднак не раз даваў жменю золата ўбогім, пры тым што ў іншы раз, ці з-за капрызу ці таму, што нешта ведаў, адмаўляўся падаць нават скібку хлеба.

Але давайце пяройдзем да анекдотаў пра яго і, калі я няўдала перакажу іх, гэта будзе не яго віна.

У Вільні жыла пані Бабацянская[111], жонка віца-губернатара, жанчына, якую сёння назвалі б эксцэнтрычнай. Тады яшчэ мала было вар'ятак, і нават слова такога не ведалі, звалі іх капрызамі ці дзівачкамі. Жмудзінка, не

---

[108] Рынальда Рынальдзіні - галоўны герой класічнага разбойніцкага рамана Да. Вульпіуса "Рынальда Рынальдзіні, атаман разбойнікаў" (1798 г.), літаратурны архетып высакароднага разбойніка.

"Фра-Д'ябла, або Гасцініца ў Тэрачыне" (фр. Fra Diavolo ou L'Hetellerie de Terracine) - камічная опера французскага кампазітара Даніэля-Франсуа-Эспры Обера. Падзеі ў ёй разгортваюцца вакол фігуры вядомага італьянскага разбойніка і змагара з французскай акупацыяй у паўднёвай Італіі на мяжы XVIII-XIX ст. Фра-Д'ябла. - *Л. Л.*

[109] Тадэвуш Булгарын, расійскі пісьменнік і журналіст (1789-1859), выдавец. Яго успаміны выйшлі ў 1846-1849 гг.

[110] Эцьен Мары Антуан Шампьён (1768-1815) - вядомы французскі генерал, кавалерыст. - *Л. Л.*

[111] Паліна Бабацянская з Мантвілаў, жонка віца-губернатара Міхала.

вельмі прыгожая але з мілым тварам, з дому Мантвілаў, славілася яна рознымі штукамі і жаданнем задаваць добры тон у салонных колах. Каля сабе знарок заўсёды мела па-сапраўднаму вельмі прыгожую і вытанчаную рэзідэнтку як прынаду на яе ўласнай вудзе для віленскай рыбы. Калі аднойчы мой бацька завёў мяне да яе, меў тады гадоў з дзесяць, але ўсё памятаю, нібы было гэта сёння, я ўпершыню меў там нейкае дзіўнае пачуццё, невядомае мне раней, нейкую асалоду для галавы і вачэй, якую апісаць не ў стане. Быў прадстаўлены ёй, і калі пасля свайго пачцівага паклону ўбачыў перад сабой дзвюх прыгожых маладых жанчын, яе саму і рэзідэнтку, панну Петранелю Абрамавічоўну, знакамітую сваёй дзіўнай прыгажосцю і настолькі дэкальтаваную, што я, ужо не дзіця, ледзь не страціў прытомнасць. Так мяне захапіў і паланіў выгляд прыгожых, белых як снег, круглых і амаль зусім аголеных грудзей! З таго часу гэтае відовішча замацавалася ў маёй крыві ці ў маіх нервах як эстэтычная, а не матэрыяльная ці пажадлівая асалода, якую пасля заўсёды выклікала відовішча па-сапраўднаму прыгожых жаночых грудзей, калі я меў магчымасць бачыць іх без перашкоды. Неймаверна! Але на працягу ўсяго майго жыцця я заўсёды ўспамінаў гэтыя грудзі панны Петранелі. На жаль, праз шмат гадоў я бачыў гэтую ўжо старую і спарахнелую панну, бо была яна настолькі ўпэўненая ў сваіх чарах і так перабірала прэтэндэнтаў, што яны раптам закончыліся. А шкода!

Потым даведаўся, што пра пані Бабацянскую тады казалі, быццам ва ўсіх сваіх туалетах яна даходзіла да крайнасці, каб уздзеянне парфумы, памады ці папільётак было такім, якім ніколі не можа быць у іншых жанчын. Што толькі пра яе не казалі! І ў асноўным, шмат несправядлівага! Дасведчаны ў гэтых справах ведае, што ствараюць праблемы не гэтыя смелыя, вясёлыя і пустыя жанчыны, якія імкнуцца падабацца ўсім і кожнаму і ледзь не кожнага могуць зачапіць. Праблемы мужам і мацяркам ствараюць іх уласныя жонкі і дочкі. Тыя самыя, нявінныя ягняты з апушчанымі вачыма, менавіта ў іх хаваюцца самыя пражэрлівыя ваўкі.

Бабацянская была жанчынай пустой, вар'яткай, поўнай самых дзіўных капрызаў, але яна не была заганнай жанчынай. Сярод яе вынаходак, напрыклад, была язда ў рускай вупражы, калі ўсе яшчэ ездзілі ў англійскай ці кракаўскай, а потым яна завяла сабе фарэйтара, які крычаў на ўсе горла: "Пади" [112], як гэта робіцца ў Расіі, і гэтым папярэджваў мінакоў. Кожную раніцу за піяніна яна вучыла свайго фарэйтара, як самым прыгожым музыкальным тонам трэба спяваць: "Па - а - а - ди". Калі яна адрамантавала і абнавіла сваю кватэру, адной з яе фантазій стала ідэя, каб усе госці, як быццам у малым горадзе, дзе ходзяць пешшу, чысцілі свой абутак у пярэднім пакоі. Тут гасцей чакалі два лакеі ў галунах са шчоткай і ваксай і выконвалі гэту работу.

Навіна разышлося па ўсёй Вільні. Хацкевіч таксама пра гэта даведаўся. І неяк, ідучы каля дома Бабацянскай разам са сваімі нягоднікамі, ён загадаў: "Панове, зараз наведаем віца-губернатара, але перад гэтым добра выпацкаем абутак ў канаве". Як загадаў, так і сталася. Увайшлі. Прадстаўляюць Хацкевіча. Гаспадыні дома з радасцю яго прымаюць. І лакеі пачынаюць усёй гэтай чарадзе ўрвісаў жвава чысціць боты! Пайшло на гэта з чвэрць гадзіны. І ўвесь час Бабацянская чакала на мяккай канапе ў маляўніча выбранай позе. Калі ўсіх вычысцілі, Хацкевіч, нібы выпадкова глянуў на гадзіннік і закрычаў: "Аднак, панове, мы ўжо абавязкова павінны быць у пана Н.", потым, павярнуўшыся да лакея: "Ужо позна, падзякуй сваёй гаспадыні за чысты абутак і бывай здароў". І пайшоў!

Пасля гэтага гэтага Бабацянская забылася на сваю новую моду.

Хацкевіч меў старога слугу, да якога быў шчыра прывязаны і разам з якім адбыў усе падарожжы. Ён заўсёды раздаваў карты, з кожнай партыі браў па дукату і таму за дзень меў шмат гэтых дукатаў. Калі ўжо сабраў добрае багацце, дык аднойчы, апранаючы свайго гаспадара, набраўся смеласці і сказаў:

- Дзякуй пане за месца службы.

Хацкевіч нібыта шылам кранутым, спалохана спытаў:

- У чым справа, мой каханы?

- З ласкі панскай я сабраў ужо сабе фундуш і хачу пайсці адпачываць на ўласны хлеб.

- А колькі ж ты сабраў? Адкажы мне шчыра? - сказаў Хацкевіч сардэчна.

- Ой, пане, дзякуй Богу, ужо каля трох тысяч дукатаў.

- Халера, ты багацейшы за мяне!

- Ха-ха-ха, яснавяльможны пан жартуе!

- Ну, добра. Шкада мне, бо люблю і прывык цябе бачыць. Слухай, Валенты. Ты дагэтуль быў маім слугой, а цяпер будзеш маім прыяцелем. Хто яшчэ можа быць для мяне лепшым прыяцелем? Не будзем разлучацца. Ты перасяляйся ў маю спальню. Будзем жыць разам і штодзень бачыцца. Хто ж мне прыемней за цябе? Схавай свой капітал, будзеш жыць на ўсім маім.

Валенты пагадзіўся

Вечарам прыехалі госці.

- Панове, - сказаў Хацкевіч - вы ведалі Валенты як майго старога слугу, а зараз я рэкамендую яго вам як свайго сябра. Ён гэтага варты, будзьце пэўныя. Прашу лічыць яго маім сябрам.

---

[112] Параўнай, у А. Блока ў паэме "Дванаццаць":
*"Снег крутит, лихач кричит,*
*Ванька с Катькою летит -*
*….*
*Ах, ах, пади!.."* - *Л. Л.*

Нанялі новага камердынера, і жыццё пайшло звыклым ходам.

Гэтак працягвалася некалькі тыдняў, падчас якіх Валенты хадзіў з Хацкевічам пад руку. За картамі сядзеў за яго крэслам і бачыў, як той выйграе золата!

Неяк Хацкевіч кажа яму:

- Чаму, пане Валенты, не паспытаеш свайго шчасця?

А Валенты кожны дзень бачыў, як тысячы дукатаў пераходзяць з адной кішэні ў другую.

- Баюся, пане!

- Дурны, проста паспрабуй у першы раз.

І Валенты пачаў гуляць. Выйграў дзвесце дукатаў. На наступны дзень выйграў сто дукатаў. Фартуна чамусьці не вельмі спрыяла ім абодвум, бо на наступны дзень зноў паспрабаваў свайго шчасця і прайграў. Захацеў адыграцца. Зноў прайграў. Потым то выйграваў дваццаць дукатаў, то зноў прайграваў. Але запаліўся і хацеў гуляць. Так прайшло некалькі тыдняў - гульня ішла шалёная, як і звычайна ў Хацкевіча. Але пасля двух тыдняў барацьбы за шчасце пан Валенты перастаў гуляць. Мінае дзень, мінае другі - Валенты сядзіць і не гуляе! Сядзіць пануры і сумны.

- Што здарылася, пане Валенты, чаму не гуляеш? - спытаў Хацкевіч.

- Пане дабрадзею, мне досыць ужо!

- Як гэта досыць?

- Досыць!

Тады Хацкевіч адвёў яго ў бок і пытае:

- Скажы праўду, чаму не гуляеш? Столькі золата на стале!

- Ой, прызнаюся пану, д'ябал мяне спакусіў і Бог пакараў! Я прайграў усё, што меў!

- Ого-го. Жартуеш Вашчэсць!

- Дальбог, праўда.

- Праўда?

- Так, пане дабрадзею

- Але ж, падумаць толькі, тры тысячы дукатаў!

- Усе да гроша прайграў!

- Тады ідзі, дурань, зноў жыць у перадпакой і зноў служы мне верна! Зараз жа забяры свае бэбахі з маёй спальні! І памятай, калі буду табой незадаволены, дык пакажу табе сем касцёлаў!

І Валенты, падкурчыўшы хвост, зноў пачаў служыць. Так Хацкевіч адмыслова правучыў небараку.

Сярод "пляткароў" Хацкевіча быў нейкі ксёндз Снарскі, дробны канонік, падобна, са Жмудзі, вялікі нягоднік і паскуднік, які праз шмат гадоў стаў куратарам манахаў-камедулаў[113] пад Коўняй, абакраў іх да ніткі, быў аддадзены пад суд і памёр у вязніцы. Снарскі, арцыкаплан псотнікаў, у гэтай кампаніі ўважаўся за генерала. Доўга трымаўся каля Хацкевіча, браў колькі хацеў грошай, але ўсе марнаваў на жанчын, карты і шынкі. Пакідаючы Вільню, Хацкевіч ніколі не браў з сабой "пляткароў", бо меў падобных паўсюдна. І покуль яго не было, гэтыя нягоднікі, як мядзведзі, смакталі лапу без грошай.

Таму, калі ён паведаміў сваім ад'ютантам, што едзе ў Бадэн, Снарскі вырашыў пажывіцца яго дабром - перад самым выездам, калі ўсё было ўжо запакавана, падпільнаваў момант, калі генерала не было ў хаце, і запыхаўшыся, падбег да камердынера, каб ад імя Хацкевіча, быццам для нейкай справы, артымаць вялізны, срэбны сервіз на 36 асоб. Камердынер добрасумленна аддаў сервіз і нават сам загарнуў у сурвэтку. З гэтымі рэчамі Снарскі адразу ўцёк з Вільні і схаваўся. Шукаць яго не было часу. Хацкевіч паехаў.

Праз год Хацкевіч нечакана вярнуўся, а Снарскі быў у Вільні! Неяк Хацкевіч з "пляткарамі" ішоў па Дамініканскай вуліцы і на рагу з Біскупскай неспадзявана наткнуўся на Снарскага. Дрэнна ... Снарскі струхнуў, ён ведаў, чым гэта можа для яго скончыцца і пачаў уцякаць. Хацкевіч дагнаў яго, пацалаваў і абняў, прыгаворваючы: "Дай табе Бог здароўя! Я ведаў, што я ёсць першая шэльма на свеце, але з радасцю пераканаўся, што ты ў сто разоў большая шэльма, чым я. Ідзі сюды, забудзем нашае непаразуменне!". Снарскі вярнуўся, Хацкевіч прыняў яго, як раней, і пра сервіз не згадваў.

Генерал меў стасункі са шматлікімі моднымі распуснымі магнатамі тагачаснай Еўропы і часам ладзіў для сваіх сяброў так званыя райскія вечары. Самыя вядомыя замужнія ці вольныя жанчыны, пад вялікім сакрэтам, у памяшканні, дзе вокны завешаныя зялёным сукном, на мяккіх габеленах, расцягнутых па паркеце, на канапах, пакрытых чорным аксамітам, аголеныя, у сваім прыродным стане без усялякай вопраткі, бавіліся з мужчынамі, запрошанымі на вечары. Арганізацыя такога вечара ў невялікай Вільні як з-за бездакорнай формы, так і з-за яго таямніцы, каштавала вялікіх грошай. Хацкевіч на гэтую вечарыну некалькі разоў запрашаў майго бацьку. Але бацька, хоць бабнік і аматар гэтай справы, не мог перадолець сорам, звязаны з такім відовішчам, і цвёрда адмаўляўся. Аднойчы сустрэўшы майго бацьку на вуліцы, Хацкевіч сказаў: "Ну, шамбелян - сціплая паненка, ты адмаўляешся ад маіх вечароў, дык дай мне слова, што не адмовішся ад заўтрашняга абеду. Дальбог, там не будзе нічога нясціплага. Прыходзь а палове другой". Прыйшоў у прызначаны час. Быў толькі Хацкевіч у добрым гумары. Каля другой гадзіны прыйшоў Петэрсан, шляхетны і разумны чалавек, але гарбаты і спераду, і ззаду. Потым канонік Зянкевіч, таксама страшна згорблены. Потым нехта трэці і таксама гарбаты. Хацкевіч з вялікай прыязнасцю сустракаў сваіх гасцей, але акрамя гаспадара і майго бацькі, усе запрошаныя госці былі гарбатымі. Так гэты шатан запрашаў аднавокіх, кульгавых, касавокіх і г.д. І ўмеў падтрымліваць прыемную гутарку, даваць такія шыкоўныя абеды, што нецвярозыя госці або не паспявалі

---

[113] Камедулы, або камальдулы - манахі каталіцкага манаскага ордэна пустэльнікаў. - Л. Л.

